# Голас Радзімы

№ 7 (2097)
16 лютага 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




## ВЕТЭРАН

І ў дзяцінстве, і пазней, у юнацкія гады, Іван Шмея ведаў, каго браць за ўзор. Такім чалавекам быў для яго бацька. Менавіта ён, удзельнік Вялікага Кастрычніка, мужны баец грамадзянскай вайны, бальшавік з 1918 года, заўсёды дапамагаў сыну знаходзіць правільны кірунак у жыццёвым моры. Таму і ў чэрвені 1941 года вучань дзесятага класа Дзяржынскай школы, камсамолец Іван Шмея не стаў разважаць аб тым, што рабіць далей. Ваганняў не было: змагацца з ворагам.

Пад Смаленскам юнака залічылі ў роту знішчальнікаў танкаў, навучылі карыстацца бутэлькамі з запальнай сумессю, паказалі, як трэба страляць з процітанкавага ружжа.

«Іншым разам глядзіш, як лёгка і проста знішчаюць танкі ў кіно, думаеш сам сабе: наколькі складаней было ўсё на самай справе! І не верце таму, хто будзе сцвярджаць, што на вайне яму не было страшна», — гаворыць Іван Сцяпанавіч.

Ваяваў Іван Шмея пад Масквой, пад Харкавам, быў цяжка паранены, шэсць месяцаў праляжаў у шпіталі. Пад Сталінградам яго назначылі ў 126-ю стралковую дывізію ў палкавую разведку, і ваяваў ён там да апошняга дня, да Перамогі. У чэрвені 1944 года давялося вызваляць горад Віцебск, дзе ён нарадзіўся і правёў дзяцінства. У тыя дні быў узнагароджаны медалём «За адвагу». А потым былі Лепель, Паставы, выйшаў на тэрыторыю суседняй Літвы. 10 кастрычніка ў раёне чыгуначнай станцыі Шамайткенен разведчыкі нанеслі імклівы ўдар па варожай аўтакалоне. Сам Шмея знішчыў дзве аўтамашыны і больш дзесятка гітлераўцаў. За мужнасць ён атрымаў ордэн Славы III ступені. У пачатку 1944 ва Усходняй Прусіі Іван Шмея са сваімі сябрамі ўзяў у палон трыццаць чатыры гітлераўцы, у тым ліку камандзіра роты. За гэты подзвіг уся група разведчыкаў была ўзнагароджана. А ў Івана Шмеі з'явіўся ордэн Славы II ступені.

У час штурму Кёнігсберга разведчыкам было загадана захапіць форт № 5. Тона дынаміту зрабіла толькі нязначную частку справы — адкрыла савецкім воінам уваход у падземныя казематы, дзе было, як потым высветлілася, каля трохсот немцаў. Кожны крок наперад у цемры даваўся нялёгка. Арыенцірам для нашых байцоў служыў агонь нямецкіх аўтаматаў... А праз некаторы час маршал Савецкага Саюза К. Ракасоўскі ўручыў Івану Шмею ордэн Славы I ступені. Пасля Перамогі поўны кавалер салдацкай Славы Іван Шмея вярнуўся ў свой Дзяржынск, што пад Мінскам. Працаваў, вучыўся, стаў камуністам. Прайшлі гады, вось ужо не дзеці, а ўнукі просяць расказаць пра вайну. А жыццё працягваецца, тое жыццё, за якое змагаўся радавы Іван Шмея і таварышы яго паходаў і баёў, жывыя і мёртвыя.

НА ЗДЫМКУ: Іван ШМЕЯ з унукамі Ігарам, Сяргеем, Дзмітрыем.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

НАВУКОВЫЯ РАСПРАЦОЎКІ

## РЭАКТАР БУДУЧЫНІ

Высокую магутнасць і вялікую бяспеку — дзве найважнейшыя ў тэхніцы асновы — удалося спалучыць вучоным Інстытута ядзернай энергетыкі АН Беларусі, якія распрацавалі праект энергетычнай устаноўкі новага пакалення — шаравы ядзерны рэактар.

Традыцыйныя для АЭС цеплавыдзяляючыя шпані з радыеактыўных матэрыялаў яны замянілі маленькімі шарыкамі ядзернага паліва, заключанымі ў ахоўныя абалонкі. Засыпаныя ў рэактар, яны дазваляюць за кошт шматразова ўзросшай паверхні цеплазнімання рэзка павялічыць магутнасць. Дзякуючы такой знаходцы ў актыўнай зоне шаравога рэактара ўтрымліваецца ў дзесяткі разоў менш паліва, чым у традыцыйных ядзерных устаноўках. Свежае паліва павінна наступаць у рэактар не раз у год, як звычайна, а невялікімі порцыямі кожныя некалькі тыдняў. Пры гэтым яго сыпкасць спрашчае загрузку: дастаўляцца ў «топку» і выдаляцца з яе шарыкі будуць пнеўматранспартам.

РАСКАЗАЛА ГАЗЕТА

## ПА ПРЫНЦЫПУ ДВУХМОЎНАСЦІ

Тэма інтэрв'ю, змешчанага ў газеце «Звязда», з рэктарам Беларускага тэхналагічнага інстытута Іванам Жарскім—практычная двухмоўнасць у рабоце гэтай вышэйшай навучальнай установы. Тут пачалі выкладаць, размаўляць, весці справы не толькі па-руску, як было дасюль, але і па-беларуску. На жаль, пакуль гэта з'ява для нас нетыповая. Тым больш, калі ўлічыць, што тэхналагічны інстытут далёкі ад гуманітарнага профілю.

Як адзначыў рэктар БТІ, народжаная ідэя — калектыўная. Яе аўтары — вучоны савет інстытута. Зараз тут арганізаваны бясплатныя курсы па вывучэнню беларускай мовы. Слухачы на іх самага рознага ўзросту — і маладыя, і сталыя. Уведзены паралельныя патокі навучання. Адзін — для тых, хто жадае вучыцца на беларускай мове, другі — на рускай. Многія выкладчыкі добра ведаюць беларускую мову і гатовы выкладаць на ёй.

Метадычная літаратура таксама будзе стварацца цяпер на дзвюх мовах. Мяркуецца перакласці і спецыяльныя падручнікі, зрабіць тлумачальны слоўнік тэрмінаў і г. д. Пачалі выдаваць н дзвюх мовах даведачную літаратуру.

У тэхналагічным інстытуце самастойна распрацавалі новы спецкурс, які называецца «Гісторыя і культура беларускага народа». Стварылі дыскусійны клуб па беларускай культуры і гісторыі беларускага народа. Іван Жарскі падкрэсліў у інтэрв'ю, што наогул на ўсіх новаўвядзеннях няма нічога надзвычайнага — проста тут не на словах, а на справе пачалі рэалізоўваць прынцып двухмоўнасці.

ЭКАЛОГІЯ

## АТРЫМАЮЦЬ СІЛУ ЗАКОНА

Падрабязныя схемы аховы малых рэк стварылі вучоныя Беларусі. Спецыялісты абследавалі літаральна кожны метр рачулак і прадугледзелі комплекс мер для іх аздараўлення. Яны вызначылі ўчасткі, дзе варта аднавіць лясы, заменіць ворыва лугам, умацаваць берег, далей ад яго перанесці ферму, склад гаручага ці мінеральных угнаенняў. З'явяцца ў рэчак і гаспадары: за кожным калгасам ці саўгасам замацоўваюцца ўчасткі ракі, на якія выходзяць іх угоддзі. Пасля зацвярджэння мясцовымі Саветамі распрацоўкі вучоных набудуць сілу закона.

КЛОПАТ АБ ЧАЛАВЕКУ

## ПАБУДАВАЛІ ДЛЯ СЯБЕ

Адначасова і працаваць, і папраўляць сваё здароўе змогуць работнікі Крычаўскай райаграпрамтэхнікі. Яны пабудавалі санаторый-прафілакторый амбулаторнага тыпу, разлічаны на сто месцаў. Ён прыняў на лячэнне першую групу працаўнікоў аграпрома.

Новая раённая здраўніца добра аснашчана медыцынскім абсталяваннем. У двухпавярховым корпусе размясціліся лячэбна-працэдурныя кабінеты, ванны, душы. Абсталяваны гразелячэбніца, зала лячэбнай фізкультуры, сауна, басейн з воднай паверхняй 170 квадратных метраў. Па назначэнню ўрача кожны працаўнік пасля рабочай змены зможа прайсці тут 24-дзённы курс лячэння.

У ПАЛЕСКІМ ЗАПАВЕДНІКУ

## ВЯРТАННЕ ЗУБРА

Дваццаць гадоў назад вельмі самабытны, маляўнічы куток беларускага Палесся ў даліне Прыпяці, Струменя і іншых рэк быў аддадзены пад адзіны ў краіне дзяржаўны ландшафтна-гідралагічны запаведнік. Багаты раслінны і жывёльны свет рэгіёна. Гэтыя мясціны насяляюць 250 відаў птушак, 41 — млекакормячых, 35 — рыб, мноства рэптылій, земнаводных. Мясцовыя жыхары сустракаюць нават мядзведзя, але зуброў да нядаўняга часу не было. Хаця, як вядома, яшчэ сто гадоў назад тут вадзіліся цэлыя статкі іх, а ад продка гэтага ляснога гіганта — тура, сцвярджаюць краязнаўцы, пайшла нават назва Тураў.

І вось нядаўна сям'я зуброў з'явілася на тэрыторыі запаведніка непадалёку ад старажытнага горада. Для іх тут пабудаваны спецыяльны вальер плошчай звыш 80 гектараў. У адной з самак з'явілася патомства. Спадзяюцца, што зубры абжывуцца ў запаведніку грунтоўна, назаўсёды.

ВЫДАДЗЕНА «БЕЛАВЕЖАЙ»

## АЛЬМАНАХ ПАЭЗІІ

У Беластоку выйшаў чарговы, чацвёрты, зборнік літаратурнай групы «Белавежа». У ім змешчаны творы аўтараў, якія пражываюць у Польшчы і пішуць на беларускай мове. Гэта вядомыя літаратары — Надзея Артымовіч, Зофія Сачко, Віктар Швед, Ян Чыквін і іншыя.

Адначасова ў выдавецтве падрыхтавана двухмоўная анталогія беларускай паэзіі «Гасцінец».

СУМЕСНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА



**На швейнай стужцы суместнага прадпрыемства «Белвест», якое з'явілася ў выніку супрацоўніцтва заходнегерманскай фірмы «Саламандэр» і віцебскай фабрыкі «Чырвоны Кастрычнік», пачаўся тэхналагічны працэс загатоўкі верху абутку. Хутка першыя партыі новага абутку паступяць у продаж. Фірма «Белвест» гарантуе высокую якасць сваёй прадукцыі. Для віцебскага абутку будуць устаноўлены такія ж гарантыйныя тэрміны, як і для імпартнага, яго будуць насіць і беларусы, і немцы — прадукцыю вырашана размяркоўваць па долевому ўдзелу ў вытворчасці абодвух прадпрыемстваў.**

**НА ЗДЫМКУ: пусканаладачныя работы ў адным з цэхаў прадпрыемства.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

МІНСК. Другая ў рэспубліцы, пасля «Янкі Купалы», персанальная энцыклапедыя «Францыск Скарына і яго час» выйшла ў выдавецтве «Беларуская савецкая энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. У 1990 годзе па рашэнню ЮНЕСКА ва ўсім свеце будзе адзначацца 500-годдзе з дня нараджэння гэтага вядомага асветніка, гуманіста, вучонага эпохі Адраджэння.

БРЭСТ. Найстарэйшая жыхарка Брэста Тацяна Сафонава адзначыла сваё 105-годдзе. Акрамя двух сыноў, з днём нараджэння бабулю павіншавалі восем унукаў, дзевяць праўнукаў і пяць прапраўнукаў. Яшчэ ў сто гадоў яна сама ўпраўлялася па дому — мыла бялізну, прыбірала, гатавала абеды. І хоць цяпер пагоршыўся зрок, учэпістая памяць і ясны розум бабулі да драбязей захоўваюць усе падзеі доўгага і нялёгкага жыцця.

БАРАНАВІЧЫ. Першы аўкцыён тэхнічных ідэй адбыўся тут на камбінаце жалезабетонных канструкцый. Галоўная мэта гэтага пакуль нетрадыцыйнага распродажу — з дапамогай сваіх жа вынаходнікаў ліквідаваць «вузкія» месцы вытворчасці, зрабіць яе больш эканамічнай. Звыш двух дзесяткаў тэм было прапанава ўдзельнікам гэтых незвычайных спаборніцтваў. Было куплена дванаццаць ідэй, якія будуць укаранёны на прадпрыемстве на працягу года.

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

## ГЭТА ЗАЦІКАВІЦЬ ПАЛІГЛОТАЎ

Выдавецтва «Беларуская савецкая энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі ўпершыню выпусціла ў свет «Нямецка-беларуска-рускі слоўнік». Аб рабоце па выпуску слоўнікаў расказвае загадчык рэдакцыі выдавецтва БелСЭ Іван САЛАМЕВІЧ.

**— ІВАН УЛАДЗІМІРАВІЧ, ВЫПУСК ТАКОГА СЛОЎНІКА, ВЯДОМА Ж, НЕ АБЫ ЯКАЯ ПАДЗЕЯ Ў КУЛЬТУРНЫМ ЖЫЦЦІ РЭСПУБЛІКІ. РАЗАМ З ТЫМ ЯНА ВЫКЛІКАЕ І НЕКАТОРАЕ ПАЧУЦЦЁ ЖАЛЮ. ЧАМУ ГЭТА НЕ БЫЛО ЗРОБЛЕНА РАНЕЙ! НАКОЛЬКІ МЫ ВЕДАЕМ З ПІСЬМАЎ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ, ПАТРЭБА Ў ПАДОБНЫХ СЛОЎНІКАЎ ІСНАВАЛА ДАЎНО.**

— Сапраўды, попыт на такія слоўнікі, асабліва сярод замежных суайчыннікаў, існаваў даўно. Але не віна выдавецтва, што работа па іх выпуску пачалася толькі цяпер. Справа ў тым, што да нядаўняга часу лічылася, і гэта няправільна, што ўсе жыхары рэспублікі валодаюць рускай мовай і могуць карыстацца руска-іншамоўнымі слоўнікамі. Цяпер наша інтэлігенцыя, урад, наогул народ робяць усё для таго, каб беларуская мова зноў заняла належнае месца ў нашым жыцці. І я лічу, што выпуск такога слоўніка з'яўляецца яшчэ адным крокам у гэтым напрамку. Хачу таксама адзначыць, што мы і да гэтага не сядзелі склаўшы рукі. Работа па стварэнню беларускіх слоўнікаў пачалася даўно. Некалькі гадоў мы працавалі над шасцітомным «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы», потым з'явіўся «Руска-беларускі слоўнік» у двух тамах, аднатомны «Слоўнік беларускай мовы», выйшаў у свет першы том «Беларуска-рускага слоўніка». І вось цяпер «Нямецка-беларуска-рускі слоўнік».

**— ШТО ЎЯЎЛЯЕ САБОЙ СЛОЎНІК І ЯКІ ЯГО ТЫРАЖ!**

— Тыраж 10 тысяч экземпляраў. Мы лічым, што гэтага яўна недастаткова, і ўжо вядзём перагаворы з аб'яднаннем кніжнага гандлю «Белкніга» аб дадатковым тыражы. Прызначаны слоўнік для школьнікаў, студэнтаў, выкладчыкаў, перакладчыкаў. Мае ён 6 тысяч слоў.

**— ШЧЫРА КАЖУЧЫ, 6 ТЫСЯЧ СЛОЎ НЯМНОГА. АЛЕ БУДЗЕМ СПАДЗЯВАЦЦА, ШТО ГЭТА ТОЛЬКІ ПАЧАТАК. ВІДАЦЬ, ВЫДАВЕЦТВА МАЕ НЕЙКІЯ ПЛАНЫ НАКОНТ ГЭТАГА!**

— Вядома, работа па выпуску слоўнікаў будзе працягвацца. Цяпер мы цесна супрацоўнічаем з выкладчыкамі Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў і ўпэўнены, што супрацоўніцтва дасць добры плён. Ужо сёлета з'явіцца ў продажы выпускаемы 30-тысячным тыражом «Англа-беларуска-рускі слоўнік». Рыхтуюцца да выпуску «Французска-беларуска-рускі» і «Іспана-беларуска-рускі» слоўнікі. Вядзецца работа над больш поўным, чым выпушчаны, «Беларуска-нямецкім слоўнікам». Будзем рабіць такія слоўнікі і з іншымі еўрапейскімі мовамі. Хачу напомніць таксама, што яшчэ ў 1962 годзе ў Варшаве быў выдадзены пад рэдакцыяй вядомага польскага моваізнаўцы Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай і акадэміка АН БССР Мікалая Бірылы «Польска-беларускі слоўнік». Цяпер сумесна з польскімі вучонымі будзем рыхтаваць «Беларуска-польскі слоўнік». Супрацоўнічаем мы і з суседзямі з Літвы ў стварэнні літоўска-беларускага і беларуска-літоўскага слоўнікаў. Як бачыце, планы ў нас вялікія і работа наперадзе вялікая. Хачу скарыстаць выпадак і паведаміць чытачам «Голасу Радзімы», што наша выдавецтва распачало работу над энцыклапедыяй «Беларуская мова». Спадзяюся, яна зацікавіць многіх замежных суайчыннікаў, паколькі змяшчае многа карысных і цікавых звестак аб узнікненні і развіцці нашай мовы.

АГРАФІРМА «ДНЕПР»





**Магутнае сельскагаспадарчае прадпрыемства ўліпося ў склад аршанскай аграпрамысловай фірмы «Днепр» — уступіла ў строй першая чарга новага цяплічнага камбіната. Будаўніцтва яго на долевых пачатках вядуць 14 прадпрыемстваў Оршы і Віцебска. Першую партыю гародніны ў цяпліцах планкуецца атрымаць у сакавіку, а цяпер прадстаўнікі гандлю спяшаюцца заключыць з кіраўніцтвам дагаворы на пастаўку прадукцыі.**

**НА ЗДЫМКАХ: работніца цяпліцы Святлана БУДЫС; заключыць дагавор на пастаўку гародніны на камбінат прыбылі гандлёвыя работнікі з Оршы. Справа — дырэктар аграфірмы «Днепр» Васіль КАВАЛЕНКА.**



## ДЗЕЦІ ВАЙНЫ

# КАБ З'ЯДНАЛІСЯ СЭРЦЫ

Як паведамлялася ўжо ў «Голасе Радзімы», сёлета ў студзені адбыўся ў Мінску Рэспубліканскі злёт былых дзяцей вайны. Многія з іх спазналі ўсю жудасць фашысцкіх канцлагераў. Кожны з іх толькі цудам застаўся жыць.

І пасля вайны ім было нялёгка: якое можа быць здароўе пасля стольких нечалавечых пакут ліхалецця?

Я прыгадаў леташнія бяседы з дзецьмі вайны ў Кіеве, дзе 22—23 чэрвеня праходзіла Усесаюзная сустрэча былых малалетніх вязняў фашысцкіх канцлагераў. Тады яны заснавалі пры Савецкім дзіцячым фондзе імя У. І. Леніна свой саюз. Новая грамадская арганізацыя праводзіць акцыі міласэрнасці, апякуецца над хваравітымі сябрамі, працуе дзеля абароны дзяцінства, дапамагае сіротам.

Летась у Кіеве была выказана думка, каб паяднацца з таварышамі па няшчасцю, былымі малалетнімі вязнямі фашысцкіх канцлагераў з Францыі, Балгарыі, Польшчы, Чэхаславакіі, ГДР, Нідэрландаў, Бельгіі і іншых краін, каб склікаць еўрапейскі злёт былых дзяцей-вязняў, стварыць міжнародны Саюз былых дзяцей—ахвяр фашызму.

Прайшло паўгода. І вось на пачатку студзеня ў Мінскім Доме настаўніка старшыня Беларускага аддзялення Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна, пісьменнік Уладзімір Ліпскі аб'явіў, што на Беларусі ствараецца рэспубліканскі савет «Дзеці вайны». Новая грамадская арганізацыя яднае былых малалетніх сведкаў і ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай, якім на пачатку вайны спаўнялася 14 гадоў, якія спазналі ганенні і рэпрэсіі нямецка-фашысцкіх захопнікаў на акупіраваных тэрыторыях, у канцлагерах, на працоўнай павіннасці...

Савет будзе ахоўваць правы і інтарэсы «дзяцей вайны», шукаць прапаўшых, стварыць мартыралог ахвяр, апекавацца над школамі-інтэрнатамі, дзіцячымі дамамі і дамамі дзіцяці.

Сёння, карыстаючыся нагодай, хацеў бы адразу ў нечым дапамагчы былому вязню, маёй знаёмай яшчэ з Кіева — Таісе Кузьмічовай. Яна расказала наступнае. Нарадзілася ў 1932 годзе. Дзявочае прозвішча — Казлова. Часам яе называлі і Тамарай. 5 чэрвеня 1944 года ў час блакады партызанскай зоны на Міншчыне яна разам з мамай Казловай Вольгай Мікалаеўнай (1914 года нараджэння), сястрой Галінай (1939 года нараджэння) была схоплена акупантамі і вывезена спачатку пад Беласток, а потым пад Варшаву.

— З Польшчы мы трапілі на тэрыторыю Чэхаславакіі ў вёску Лесіце або Лешчыцэ,— згадвае Таіса Адамаўна.— Побач працякала вялікая рака, магчыма Марава. Да вёскі падыходзілі горы, магчыма гэта былі Карпаты.

Пад канцлагер адвялі вялікі клубны будынак. Працавалі мы на заводзе, за 1—2 кіламетры за вёскай. У 3—5 кіламетрах ад нас знаходзіўся вялікі горад: гаварылі, што гэта нібыта Забржаг.

Побач клубнага будынка, дзе нас трымалі, жыла адна мясцовая сям'я. Дарослыя дзесьці працавалі, а дзеці хадзілі ў школу. Вось яны ўвесь час і падкормлівалі мяне з сястрой, ратавалі ад голаду. Мы так пасябравалі, што, калі ад'язджалі на Радзіму, дзеці падарылі на памяць фотаздымак. Там сфатаграфаваны іх бацька, старэйшая сястра (імёнаў не памятаю), Мажэна і Алена ў клетчастых сукенках, у цёмным — Варуня, малодшы іх брат з гармонікам — Іржы. Нас вызвалілі 6 мая 1945 года. Перад самым адступленнем немцаў чэхі, асцерагаючыся, што нас могуць расстраляць, тайна схавалі па цёмных кутах. На гэты раз ратавала нас сям'я Строгалевых: два дні трымала ў непрыкметным склепе...

Таіса Адамаўна вельмі хоча адшукаць сваіх ратаўнікоў, каб яшчэ раз падзякаваць за збавенне ад гібелі, дазнацца пра іх лёс. Мо хто з чытачоў «Голасу Радзімы» ёй дапаможа?

Хачу закончыць гэтыя нататкі вершам, які напісаў у першы дзень работы злёту. Ён так і называецца «Дзеці вайны».

**Калі не агонь,**
**то віхор карагодзіць...**
**Чутно: не змаўкаюць**
**на свеце званы.**
**Зсівелі**
**яшчэ да свайго**
**паўстагоддзя**
**дзеці вайны.**

**Вам хочацца сёння**
**паболей спагады.**
**Вам хочацца сёння**
**паменей маны.**
**Хто з нас аржаному**
**акрайчыку рады!**
**Дзеці вайны.**

**З пякучаю праўдай**
**душа не чарсцвее,**
**бо служыць**
**замест міласэрнай струны.**
**Трымаюць**
**слязіну-планету на веях**
**дзеці вайны.**

**А злучацца душы —**
**і знікнуць ільдзіны;**
**з'яднаюцца сэрцы —**
**і ўзбудзяць чаўны...**
**Вы — дзеці Жыцця,**
**вы — іскрынкі Радзімы,**
**дзеці вайны.**

**Сяргей ПАНІЗНІК.**

# ФОТА-ФЕСТЫВАЛЬ У МІНСКУ

**Сёлета сусветная грамадскасць адзначае знамянальную дату— 150-годдзе фатаграфіі. Рыхтуецца да гэтага і калектыў народнага фотаклуба «Мінск» — старэйшага творчага аб'яднання Беларусі. Мінчане і госці горада змогуць пазнаёміцца з творчасцю пятнаццаці майстроў рускага і савецкага фотамастацтва. Сярод іх М. Дзмітрыеў, Б. Ігнатовіч, А. Перавошчыкаў, А. Гаранін, Р. Ракаўскас, В. Бутырын, П. Крыўцоў.**

**Пабываюць аматары фотамастацтва на выстаўцы гістарычнай фатаграфіі, на персанальных выстаўках беларускіх аўтараў. Тыя, хто пажадае набыць работы, што спадабаліся, змогуць зрабіць гэта на фотааўкцыёне.**

**І, вядома, адной з цэнтральных падзей фестывалю стане шостая традыцыйная выстаўка «Фотаграфіка-89», удзел у якой прымуць фотамастакі ўсёй краіны і замежныя майстры. Адбылося пасяджэнне журы выстаўкі, вызначаны лепшыя з трохсот фатаграфій, адабраных для экспанавання. Сярод іх аўтараў мінчанка Маргарыта Трэніна. Фотафестываль у Мінску стане прыкметнай з'явай у культурным жыцці рэспублікі.**

**НА ЗДЫМКАХ: працуе журы выстаўкі «Фотаграфіка-89»; Валерый ЯГОРАЎ (горад Каўроў). «У віхры гонкі»; Віталій КАВАЛЕЎСКІ (горад Казань). «Людскія радасці».**







## ЗОНА АСАБЛІВАЙ УВАГІ

# ТЫСЯЧА ДЗЁН ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ

Менавіта пад такім загалоўкам рэспубліканскія газеты надрукавалі справаздачныя матэрыялы з сустрэчы грамадскасці рэспублікі з членамі камісіі Бюро ЦК Кампартыі Беларусі і Савета Міністраў БССР па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Удзельнікі сустрэчы, а праз іх і мільёны чытачоў атрымалі шмат інфармацыі аб стане спраў на сённяшні дзень, аб прынятых і прымаемых мерах па ахове людзей і зямлі ад радыяцыйнага забруджання.

Рознаму па ўзроўню забруджанню радыенуклідамі падвергліся больш за 520 тысяч чалавек, якія жывуць у рэспубліцы. Але дзякуючы той рабоце, якая праводзіцца па ліквідацыі вынікаў біды, не дапушчана ніводнага выпадку парушэння здароўя людзей, абумоўленага радыяцыйнымі фактарамі.

Летась была распрацавана і зацверджана канцэпцыя бяспечнага пражывання насельніцтва на заражаных радыенуклідамі тэрыторыях. У ёй рамках зроблены прагноз доз (прыкладна 35 бэр) на 70 гадоў для кожнага населенага пункта, дзе адзначана ўстойлівае змяненне радыяцыйнай абстаноўкі. Для месцаў, дзе гэты ўзровень можа перавысіць дапушчальны, вызначаны пералік мер па інжынернай і агратэхнічнай дэзактывацыі. Калі ж і гэтыя мерапрыемствы не дадуць неабходнага эфекту, спатрэбіцца высяленне жыхароў у бяспечныя месцы.

На аснове рэкамендацый і дакументаў Міжнароднай камісіі па радыяцыйнай ахове зроблены прагноз захворвання з улікам позніх саматычных, генетычных эфектаў або анкалагічнай рызыкі. Дадатковая колькасць выпадкаў анкалагічных захворванняў не перавысіць 0,5 працэнта ад цяперашняга ўзроўню. Пры сучасным тэмпе росту спантаннага захворвання ракам у рэспубліцы, які складае 3—5 працэнтаў у год, нават статыстычна гэту дабаўку выявіць не ўдасца. Аналагічная ацэнка і генетычнай рызыкі: яна, вядома, існуе, але яе велічыня таксама наўрад ці можа быць выяўлена.

Структура агульнага захворвання насельніцтва Гомельскай і Магілёўскай абласцей у мінулым годзе не змянілася. Узровень дзіцячай смяротнасці за апошнія тры гады мае ўстойлівую тэндэнцыю да зніжэння, у тым ліку і ў пацярпеўшых раёнах.

Зараз у рэспубліцы паглыблена абследавана больш дзвюх тысяч населеных пунктаў і ў выніку складзена карта радыеактыўнага забруджання ўсёй тэрыторыі рэспублікі. (Карта надрукавана ў газетах). Забруджанню падвергліся каля 18 працэнтаў тэрыторыі Беларусі.

На сённяшні дзень у выніку распаду кароткажывучых радыенуклідаў і дэзактывацыі магутнасці дозы гама-апраменьвання зніжаны ў шмат разоў.

*ПОДПОЛКОВНИК И. ЕФИМОВ И ПИСАТЕЛЬ Ю. ПОЛЯКОВ ОТВЕЧАЮТ НА ВОПРОСЫ ЗАРУБЕЖНЫХ ЖУРНАЛИСТОВ*

# МОЛОДЕЖЬ В СОВЕТСКОЙ АРМИИ

Игорь ЕФИМОВ, 35 лет, подполковник, окончил Донецкое высшее военно-политическое училище и Военно-политическую Академию им. Ленина, прошел ступени служебной лестницы в армии от заместителя командира роты до заместителя командира полка по политической части. В настоящее время помощник начальника Главного политуправления Советской Армии по комсомольской работе, член Бюро ЦК комсомола.

Юрий ПОЛЯКОВ, 33 года, один из самых популярных молодых советских писателей, автор острокритической повести об армейской службе «Сто дней до приказа» (1987), судьба публикации которой решалась в течение 5 лет. Служил рядовым в артиллерии. Секретарь правления Союза писателей России, кандидат в члены ЦК комсомола.

## АРМИЯ В УСЛОВИЯХ ДЕМОКРАТИЗАЦИИ И ГЛАСНОСТИ

**«АРМЕЙСКА МЛАДЕЖ» (Болгария): Какое влияние оказывают на армию процессы перестройки в советском обществе?**

**ИГОРЬ ЕФИМОВ:** Армия — не закрытая от общества организация. Ее в полной мере затронули гласность и демократизация. В частях создаются политклубы, дискуссионные центры, где солдаты обсуждают самые острые вопросы нашей истории и сегодняшнего дня. Повысилась дисциплина, уменьшилось количество проступков, связанных с неуставными отношениями. Мы видим, как демократизация армии ведет к тому, что дисциплина становится более сознательной.

**ЮРИЙ ПОЛЯКОВ:** В то же время каких-либо глобальных перемен в армейской среде гражданское население еще не почувствовало. Я думаю, что и в советском, и в партийном аппарате, и в армии есть люди, заинтересованные в сохранении прежнего статус-кво. Но есть и много прогрессивных офицеров, которые понимают, что армия должна изменяться если не вместе, то вслед за обществом.

**«ВЕТЕРАНЗ АДВОКЕЙТ» (Канада): Как военная служба изменилась в свете политики гласности, которую проводит ваше руководство?**

**ИГОРЬ ЕФИМОВ:** Сначала о гласности. Есть понятие «военная тайна», и было бы, я считаю, неразумным от него отказываться. Но тех сфер, где это допустимо, гласность коснулась в полной мере. Критические замечания солдат и молодых офицеров обсуждаются на молодежных собраниях, выносятся на страницы армейских газет и журналов.

**ЮРИЙ ПОЛЯКОВ:** Несомненно, за последние два-три года гласности, судя по армейской прессе, в армии стало больше. Сегодня на ее страницах печатаются вещи гораздо более страшные, чем в моей повести «Сто дней до приказа». Идет процесс очищения, который немыслим без критики.

**«ИОМИУРИ» (Япония): По мнению нашей газеты, пересмотр истории СССР, особенно в период руководства Сталина, окажет влияние на моральное состояние солдат. В связи с этим: как в настоящее время преподают историю страны и историю Красной Армии?**

**ИГОРЬ ЕФИМОВ:** В вопросе я почувствовал подтекст: не приведет ли новое знание к деморализации личного состава? Мне кажется, героическая история нашей армии дает нам столько примеров для патриотического воспитания, что для подобных сомнений нет оснований.

**ЮРИЙ ПОЛЯКОВ:** Самое главное сегодня — преодолеть влияние сталинских времен. Избавиться от страха перед свободным взглядом на нашу историю. Немало глав придется переписать.

## АРМИЯ В ФОКУСЕ МЕЖНАЦИОНАЛЬНЫХ ОТНОШЕНИЙ

**«ДЕФЕНС НЬЮЗ» (США): В «Арми Таймс» рассматривался вопрос об этническом факторе в армии США. В ней много солдат-негров, а также лиц азиатского и латиноамериканского происхождения. Национальный состав Советской Армии также весьма пестрый. Как взаимодействуют друг с другом различные этнические группы в Советской Армии?**

**ИГОРЬ ЕФИМОВ:** Национальный состав Советской Армии отражает представительство различных наций и народностей в совокупном населении СССР. Мы стараемся поддерживать пропорциональность представительства в каждой части. При этом естественно стремление выходцев из определенного региона держаться вместе. Мы поощряем землячества, если их деятельность носит позитивный характер.

Одна из проблем — языковая. Многие выходцы, например, из Средней Азии плохо знают русский язык. Другая — национальные традиции и устои. Скажем, юноши из областей, где сильно влияние ислама, поначалу отказываются есть свинину. Встречаются и отдельные случаи высокомерия по отношению к представителям других национальностей. Мы опасались вспышки армянского и азербайджанского национализма в частях после событий в Сумгаите. Но даже в тех воинских подразделениях, которые были введены в Нагорный Карабах, а там служат и армяне, и азербайджанцы, до сих пор не было попыток устроить стычки на национальной почве. Обобщая, могу сказать, что национальные проблемы в армии остро не стоят.

**«ИОМИУРИ»: В западной прессе пишут, что среди высших чинов Советской Армии мало лиц нерусских национальностей, особенно тех, которым трудно дается русский язык. Это также относится и к тем, кто служит в ракетных войсках, военно-воздушных силах, требующих высокой квалификации и знаний. Так ли это?**

**ИГОРЬ ЕФИМОВ:** В определенной мере так. Мы ощущаем острую нехватку национальных кадров в военно-воздушных училищах. В особенности это касается таких регионов, как Прибалтика и Средняя Азия. Местное население слабо представлено в офицерском корпусе. Хотя, скажем, в республиках Закавказья такой проблемы нет — в последнее время наблюдается приток в армию грузин, армян, азербайджанцев. Офицеров так же, как и специалистов в других областях человеческой деятельности, нужно воспитывать. И не только в специальных училищах. Мы видим решение этой проблемы и в создании специальных школ с углубленным изучением русского языка и усиленной военно-спортивной подготовкой.

**«ЭТЕЛЯ СУОМЕН-САНОМАТ» (ФИНЛЯНДИЯ): В Эстонии выдвигается мысль о создании национальных воинских частей, личный состав которых проходил бы службу в родной республике. Можно ли, на ваш взгляд, осуществить эту идею?**

**ЮРИЙ ПОЛЯКОВ:** Конечно, желание человека служить недалеко от дома понятно, и осуждать его за это было бы глупо. Но есть ведь и государственные интересы. Я думаю, что во время фолклендского конфликта немало английских солдат предпочли бы служить в Англии, а не отправляться за тысячи километров от дома. Другое дело, стоит ли отправлять человека, привыкшего к мягкому климату, в среднеазиатские пустыни? Мне кажется, что здесь возможен разумный компромисс со стороны армейского руководства.

## «ДЕДОВЩИНА»

**«ИА» (Испания): Могли бы вы описать самые распространенные неуставные отношения, практикуемые «дедами» по отношению к новичкам в армии?**

**ИГОРЬ ЕФИМОВ:** «Деды» — это солдаты второго года службы, которые пытаются переложить часть своих служебных обязанностей на новобранцев. «Дедовщина» проявляется и на занятиях, и при обслуживании боевой техники, и на хозяйственных работах, и в казармах. Гораздо реже дело доходит до издевательств. Могу сказать, что 50 процентов полков и кораблей сегодня живет вообще без происшествий и преступлений. За последний год число преступлений в армии сократилось на одну треть.

**ЮРИЙ ПОЛЯКОВ:** Неуставные отношения — это целый комплекс явлений, и трудно сказать, какие из них наиболее распространенные. Самое универсальное средство, говоря солдатским языком, — мордобой. Есть, конечно, и изощренные формы издевательств, получившие ритуальный характер, например, стояние ночью на табурете, подметание пола в казарме сапожными щетками и так далее.

Долгое время наличие неуставных отношений в армии замалчивалось. Я в своей повести «Сто дней до приказа» затронул этот больной вопрос и натолкнулся на мощнейшее сопротивление со стороны части военных. И только общее изменение политической атмосферы в нашей стране в сторону гласности позволило опубликовать «Сто дней до приказа» в журнале «Юность». Брешь в плотине молчания была пробита, и сегодня тема «дедовщины» активно обсуждается в печати, в том числе армейской.

**«ТАЦ» (Западный Берлин): Что в первую очередь не устраивает проходящих службу солдат?**

**ЮРИЙ ПОЛЯКОВ:** Прежде всего проблема неуставных отношений — «дедовщина». Кто-то борется с ней, идет на конфликт, но есть и слабые люди. Многие готовы унижаться год, чтобы затем еще год повелевать новобранцами, чем два года служить по уставу. Интересно, что в пограничных войсках, где на руках у ребят боевое оружие, есть боевые дежурства, неуставные отношения сведены до минимума.

Офицеры относятся к неуставным отношениям среди солдат по-разному. Большинство считает, что надо бороться с «дедовщиной». А кое-кто видит в ней основу дисциплины в армии, когда они командуют старослужащими, а те — молодыми солдатами.

Что же касается гражданского населения, то фактом общественного сознания «дедовщина» стала недавно. До моей повести были лишь частные разговоры. Сейчас общественность настроена резко критически, что, несомненно, помогает прогрессивному руководству армии в борьбе с «дедовщиной».

## ОТНОШЕНИЕ СОЛДАТ К ВОЕННОЙ СЛУЖБЕ

**«ТАЦ»: Существует ли среди советской молодежи убеждение в необходимости проходить службу без оружия?**

**ЮРИЙ ПОЛЯКОВ:** В русском языке есть выражение «солдатская косточка». Так говорят о людях, которым в силу их дисциплинированности, аккуратности, привычки все делать по приказу на роду написано служить в армии. Но есть и другие — те, для кого армия неорганична. Возможно, тысячи лет назад они были бы звездочетами. А их заставляют служить наравне со всеми! Как будто одинаковая форма делает всех одинаковыми. Это глубочайшее заблуждение, оставшееся нам в наследство от сталинских времен. Рано или поздно придется что-то менять. Возможно, в далекой перспективе выходом станет добровольная служба.

Пока же такие ребята ищут идейное обоснование своей природной неспособности служить в армии в пацифизме или религии. Кроме того, в этом тонком деле надо понять и военных. Пацифистские убеждения легко сымитировать, поэтому к ним относятся с подозрением. Даже в ФРГ, где сильно пацифистское движение, для отказа от ношения оружия необходимо предъявить справку об участии в демонстрациях, митингах и других акциях пацифистов. В СССР же пока нет и движения как такового. Есть отдельные группки и индивидуумы. Но разрубить этот гордиев узел, по моему мнению, могла бы добровольная служба.

**«ТАЦ»: Считают ли солдаты срок службы в армии слишком больши**

**ЮРИЙ ПОЛЯКОВ:** Конечно, кое-кому 2 года кажутся большим сроком. Но следует вспомнить, что срок службы при царях был 25 лет, в 20-30-е годы — 4—5 лет, а до середины 60-х — 3—4 года. Да, конечно, солдаты ждут конца службы. За точку отсчета принимают день приказа министра обороны о демобилизации. Начинают считать за 100 дней. Поэтому я и назвал свою повесть об армии «Сто дней до приказа».

**«ИА»: Повлияет ли перестройка на сокращение сроков службы в армии в связи с сокращением военного потенциала СССР?**

**ИГОРЬ ЕФИМОВ:** Пока так вопрос не стоит. Я знаком с заявлением академика Сахарова о сокращении сроков службы на год, но это нереально в сегодняшних условиях. Мы не сможем за такой срок подготовить квалифицированного специалиста, способного обращаться со сложной военной техникой. Ведь подчас солдату требуются в армии знания инженера.

## ВЗГЛЯД НА СЛУЖБУ С РАЗНЫХ СТОРОН

**«ЛИМБУРГЕР» (Голландия): Из чего состоит обучение во время службы в Советской Армии? Отводится ли, например, время для общего развития или же обучение направлено исключительно на функционирование в армии (исключительно военные вопросы)?**

**ИГОРЬ ЕФИМОВ:** Обучение в армии включает в себя боевую и политическую подготовку. Боевая подготовка направлена на приобретение воинской специальности и навыков, связанных с армейской службой. В ходе политических занятий продолжается процесс формирования политических взглядов, установок, психологических и нравственных качеств. Солдаты имеют возможность расширить свой политический кругозор. Они изучают историю государства и армии, советские законы, постановления правительства.

Кроме того, солдаты получают в армии «мирную» профессию: радиотелеграфиста, строителя, водителя и т. д.

**«ЛИМБУРГЕР»: Какова роль женщины в армии?**

**ИГОРЬ ЕФИМОВ:** Военнослужащими женщины становятся только в добровольном порядке. Они должны быть не моложе 18 и не старше 28 лет, не замужем и не иметь детей. Как правило, они служат рядовыми, реже офицерами. Непосредственно с оружием контакта не имеют. Заняты на обеспечивающих службах.

Кроме военнослужащих-женщин, есть также категория, более многочисленная, женщин-служащих Советской Армии. Они не имеют воинских званий, не принимают присягу. Это, как правило, медсестры, машинистки, буфетчицы и т. д. Они получают заработную плату, несколько большую, чем представители аналогичных профессий в народном хозяйстве.

**«ДЕФЕНС НЬЮЗ»: Американские солдаты очень гордятся своими значками и формой. Они часто пишут письма в «Арми Таймс», указывая, какие типы фуражек или рубашек они предпочитают. Как в Советской Армии определяется стиль одежды? Участвуют ли в этом солдаты?**

**ИГОРЬ ЕФИМОВ:** Солдаты любой армии мира любят свою форму, стремятся сделать ее наряднее. Более других в Советской Армии выделяются воздушно-десантные войска. Их даже называют по головному убору — «голубыми беретами». Наши солдаты также пишут немало писем командованию, министру обороны с предложениями об улучшении формы одежды. Сейчас разрабатывается новая модель, более практичная, более спортивная, из более качественной ткани. И более элегантная. Значков же в Советской Армии более чем достаточно. За два года солдат может заслужить 5—6 знаков воинской доблести.

**«ТАЦ»: Как относятся в армии к такой серьезной теме, как сексуальность?**

**ЮРИЙ ПОЛЯКОВ:** До сих пор солдат считался чуть ли не бесполым существом. Такое отношение идет, видимо, от тридцатых-сороковых годов, когда казалось, что определенными установками можно изменить природу человека. Тогда в СССР запретили презервативы и аборты. Возросло количество случаев заболевания простатитом. Однако никому до этого не было дела. Сейчас возросло число ранних браков, но семейное положение призывников до сих пор не учитывается. Солдата, женившегося, скажем, в Белоруссии, могут отправить на Дальний Восток. Легче стало с посещением родственниками казарм, но количество и продолжительность отпусков на родину, по-моему, недостаточны.

**«ТАЦ»: Бывают ли в армии происшествия, связанные с принудительным сексуальным ограничением?**

**ЮРИЙ ПОЛЯКОВ:** Мне кажется, что немалая доля конфликтов в казармах происходит из-за накопления сексуальной энергии. Как правило, проблема секса в армии игнорируется командованием и армейской прессой. Лишь в самое последнее время появились первые публикации на эту тему.

(АПН).

СТВОРАНА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ВІЛЬНЮСЕ

# ДА СВАІХ КАРАНЁЎ

**Напярэдадні новага, 1989 года, калі наша рэспубліка адзначала свой 70-гадовы юбілей, у Маскве ўзнікла Таварыства беларускай культуры імя Францыска Скарыны. Пра гэту падзею ўжо паведамляў «Голас Радзімы». І вось зусім нядаўна ў сталіцы суседняй з намі Літвы таксама было арганізавана Таварыства беларускай культуры.**

Вільнюс — гістарычны грамадска-культурны цэнтр літоўскіх і беларускіх зямель, супольны асяродак літаратурна-мастацкага жыцця. Тут ствараліся помнікі пісьменнасці (летапісы, статуты), якія з'яўляюцца агульным культурным здабыткам літоўскага і беларускага народаў.

У 1522 годзе славуты славянскі першадрукар Ф. Скарына выдаў у Вільні «Малую падарожную кніжыцу». Жыццё і дзейнасць многіх выдатных сыноў і дачок Беларусі цесна звязана з Вільняй. Тут плённа працавалі В. Дунін-Марцінкевіч, А. Кіркор, Янка Купала, Цётка, І. Буйніцкі... А ў 1919—1939 гадах, калі Вільня ўваходзіла ў склад буржуазнай Польшчы, яна стала цэнтрам заходнебеларускага рэвалюцыйна-вызваленчага руху.

Трывалыя сувязі звязваюць абодва нашы народы, абедзве сталіцы. І сёння ў Вільнюсе жыве каля 7 тысяч беларусаў.

...У памяшканні школы мастацтваў імя Чурлёніса, дзе адбываўся ўстаноўчы сход Таварыства беларускай культуры, панавала святочная атмасфера. Да гэтай нагоды былі прымеркаваны вернісаж мастака Уладзіміра Кузьменкі, выстаўка беларускіх паясоў, вытканых членам клуба «Сябрына» Янкам Тулейкам. Прадаваліся беларуская мастацкая літаратура, плакаты. На сход прыехалі вучоныя, мастакі, літаратары, краязнаўцы, удзельнікі мастацкай самадзейнасці з розных мясцін Беларусі.

А распачаў яго юны жыхар Вільнюса Уладзімір Вішнякоў, які прачытаў прысутным верш на беларускай мове.

— Мы рады павітаць вас усіх у Вільнюсе, а па-ранейшаму — у Вільні, — звярнуўся да ўдзельнікаў сходу і гасцей Аляксей Анішчык. — А заадно і паведаміць пра становішча беларусаў на Віленшчыне. Мы жывём тут спрадвеку, супольна з літоўцамі. Ведаем і паважаем мову братняга народа, але не забыліся і на сваю. Захоўваем беларускія традыцыі, звычаі. Але да нядаўняга часу былі мы раз'яднаныя. Хіба што сустракаліся ў каго дома з нейкай нагоды. Бадай, менавіта перабудова, дэмакратызацыя ўсяго жыцця ў краіне далі нам магчымасць стварыць сваю грамадскую арганізацыю пры Літоўскім фондзе культуры.

Першае пачынанне віленскіх беларусаў — гэта папулярны ўжо сёння клуб «Сябрына», які аб'ядноўвае аматараў беларускай народнай творчасці. А 8 снежня 1988 года прэзідыум Літоўскага фонду культуры зацвердзіў статут Таварыства беларускай культуры. У статуце, які быў зачытаны на ўстаноўчым сходзе, дарэчы, акрэслены правы і абавязкі яго членаў, асноўныя задачы і мэты Таварыства, планы работы арганізацыі.

— Асноўная задача аб'яднання, — сказаў у сваім выступленні член аргкамітэта Валянцін Стэх, — прапаганда і папулярызацыя беларускай культуры ў Літве. Перабудова ўскалыхнула ўсе народы, якія жывуць у Літве. У сённяшняй сітуацыі, калі ідзе адраджэнне ленінскіх асноў у нацыянальным развіцці, кожны народ імкнецца да сваіх каранёў. Наша Таварыства лічыць патрэбным выхоўваць патрыятычныя і інтэрнацыянальныя пачуцці людзей. Так, будзем дапамагаць беларусам у Літве больш дасканала засвойваць літоўскую мову, знаёміцца з культурнымі дасягненнямі іншых народаў. Мяркуем з цягам часу адкрыць кіёск «Саюздруку».

Дадам, што па ініцыятыве аргкамітэта Таварыства ў Вільнюсе ўжо наладжаны гандаль беларускай перыёдыкай. Пакуль яшчэ невялікі, але ўжо ёсць попыт на газеты «Голас Радзімы» і «ЛіМ».

У планах работы на бліжэйшую будучыню — стварэнне беларускай бібліятэкі-чытальні, лекторыя па пытаннях беларускай культуры, а ў перспектыве — адраджэнне Беларускага музея, адкрыццё беларускай школы, дзіцячага сада, кафедры ў Вільнюскім універсітэце.

Трэба тут, відаць, нагадаць чытачу, што ў свой час была ў гэтым горадзе і беларуская гімназія, працавалі кнігарня і друкарня, а ў так званых базыльянскіх мурах дзейнічаў Беларускі музей. У яго экспазіцыі было некалькі найкаштоўнейшых ка[...]цый — археалагічных, с[...]гістычных, нумізматычных, унікальная калекцыя медалёў, крыжоў, зборы слуцкіх паясоў, дываноў Нясвіжскай і Гродзенскай мануфактур, беларускіх народных інструментаў, карцін, стара[...]рукі, пячаткі полацкіх княз[...] цяг паўстанцаў 1863 года. [...]ася вайны большасць усіх гэтых нацыянальных каштоўнасцей трапіла ў Гісторыка-этнаграфічны музей Літоўскай ССР і ў цэнтральную бібліятэку АН ЛССР.

Работа, як бачыце, будзе вялікая, відаць, нялёгкая. На сённяшні дзень нашымі землякамі ў гарвыканкоме Вільнюса ўжо ставілася пытанне аб передачы базыльянскіх муроў пад цэнтр беларускай культуры. Трэба спадзявацца, што неўзабаве яно будзе вырашана станоўча.

Добраахвотныя ўзносы і ахвяраванні Таварыству жадаючыя могуць унесці на яго разліковы рахунак № 1700653 у аперацыйным упраўленні жылсацбанка г. Вільнюса.

А пакуль у фонд будучай бібліятэкі і музея прывезлі энцыклапедычныя даведнікі і слоўнікі, вырабы народных майстроў госці з Мінска. На адпаведным узроўні сустрэліся намеснікі міністраў культуры БССР і ЛССР, якія прыйшлі да згоды, што ў Вільнюсе павінен стаяць помнік Скарыне. Камісія «Вяртанне» Беларускага фонду культуры ў сваю чаргу звярнулася з просьбай да літоўскага ўрада перадаць экспанаты для аднаўлення Беларускага музея ў Вільнюсе.

— У маім уяўленні, Таварыства беларускай культуры ў Вільнюсе — гэта асяродак, дзе яднаюцца два народы, — вельмі трапна адзначыў А. Мальдзіс. — Таму асноўная задача — мацаваць дружбу.

Нельга не пагадзіцца з такой думкай паважанага вучонага. Дружба і ўзаемаразуменне прадстаўнікоў розных народаў, іх павага адзін да аднаго — толькі так мы можам узаемаўзбагачацца, развівацца і рухацца наперад.

**Таццяна АНТОНАВА.**



Выстаўка «Кастусь Каліноўскі ў творах жывапісу, графікі, скульптуры і медальернага мастацтва» прайшла ў выставачнай зале аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў БССР у Троіцкім прадмесці Мінска. Складзена яна з калекцыі навуковага супрацоўніка Белдзяржуніверсітэта Анатоля Белага, а арганізавана клубам калекцыянераў Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры і прысвечана 150-годдзю з дня нараджэння выдатнага беларускага рэвалюцыянера, мысліцеля, паэта і публіцыста, кіраўніка паўстання 1863 года ў Беларусі і Літве. У экспазіцыі — больш за восемдзесят твораў беларускіх мастакоў. Тут прадстаўлены работы Э. Агуновіча, М. Купавы, А. Марачкіна, А. Кашкурэвіча, М. Селешчука.

НА ЗДЫМКАХ: у выставачнай зале; М. СЕЛЯШЧУК. Ілюстрацыя да кнігі А. Якімовіча «Кастусь Каліноўскі»; А. АПІЁК. «За волю».

Фота Я. КАЗЮЛІ.





## НА СТАРАЖЫТНАЙ ЗЯМЛІ БРАГІНСКАЙ

# У ЛАНЦУЖКУ СТАГОДДЗЯЎ

Паўднёва-ўсходні куток Гомельскай вобласці ўразаецца клінам паміж рэкамі Прыпяццю і Дняпром ля іх сутокаў. У той час, як сумежныя да рэк бакі гэтага кутка нізінныя, пясчаныя, пакрытыя балотамі, азёрамі, залівамі і параслі сасновым лесам, сярэдняя частка яго ўяўляе мясцовасць больш узвышаную, здаўна і дазолі густа заселеную і апрацаваную. Гэтая града цягнецца ад паўднёвага ўсходу да паўночнага захаду і арашаецца цячэннем рэчкі Брагінкі, на якой стаіць гарадскі пасёлак Брагін.

Знаёмства з цяперашнім Брагінам пацвярджае выслоўе аб тым, што і ў мірны час ёсць месца подзвігу. Мы неяк прывыклі метафарычна апісваць неардынарныя падзеі, але людзі, што змагаліся ў зоне Чарнобыльскай АЭС твар у твар з бядою, што жывуць і працуюць там сёння, не любяць гучных слоў. Яны выратавалі гарадскі пасёлак і зробяць усё, што ў іх сілах, каб захаваць гэты багаты і прыгожы край для сваіх дзяцей і ўнукаў.

А гісторыяй сваёй брагінцы ганарацца па праву. Яна ў іх не менш даўняя і славутая, чым у іншых мясцін Беларусі. Таму аб гісторыі старажытнай брагінскай зямлі варта расказаць.

...Уздоўж рэчкі Брагінкі размясцілася большая частка населеных пунктаў наваколля. Вёскі гэтыя вядомы брагінцам не толькі дзякуючы іх ролі ў гаспадарчым жыцці краю. У некаторых з іх нарадзіліся славутыя землякі, імёны якіх ведаюць далёка па-за Брагіншчынай.

У вёсцы Сабалі, напрыклад, нарадзіўся вядомы беларускі савецкі пісьменнік Раман Сабаленка, імем якога названа адна з вуліц гарадскога пасёлка. З вёскі Глухавічы родам беларускі вучоны, акадэмік АН БССР М. Паўлючэнка. Вёска Астрагляды з'яўляецца радзімай В. Палескага (Станкевіча), драматурга, журналіста, заслужанага дзеяча культуры БССР, творы якога прысвечаны жыццю і быту калгаснай вёскі, сапраўдным героям свайго часу, простым палескім жыхарам. У вёсцы Гдзень нарадзіўся Герой Савецкага Саюза П. Шпетны. Гвардыі старшы лейтэнант Шпетны вызначыўся ў Курскай бітве ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Імя аднаго з сыноў Брагіншчыны, ураджэнца вёскі Спярыжжа, назаўсёды ўпісана ў летапіс славы зусім нядаўна. Гэта Васіль Ігнаценка, які ўвайшоў у бессмяротнасць праз полымя чарнобыльскага пажару.

Рэчаіснасць часта аказваецца больш суровай, чым мара. Але жыццё — гэта ніць, якая злучае мінулае і сучаснасць.

...Амаль праз увесь раён, з поўначы на поўдзень, цячэ рэчка Брагінка. На яе берагах калісьці з'явіліся першыя пасяленцы краю — паляўнічыя каменнага веку. Крамянёвыя нажападобныя пласціны, рэшткі глінянага посуду, розныя каменныя адшчэпы, якім ад 5 да 7 тысячагоддзяў, дагэтуль знаходзяць вучоныя ў брагінскай зямлі. Першых пасяленцаў змянялі іншыя: многія народы праходзілі тут з рознымі мэтамі і намерамі, бо Брагіншчына ляжыць на найбольш урадлівых па ўсёй паўднёвай Беларусі землях. Рэчка Брагінка, бурлівая ў час веснавой паводкі, ціхая ў летнюю спякоту, з'яўляецца адзіным сведкам падзей, якія адбываліся на яе берагах.

Як сведчыць легенда, калісьці разбойнічалі ў тутэйшых мясцінах два ліхадзеі і люта ненавідзелі адзін аднаго. Здарылася так, што больш моцны з іх забіў свайго саперніка, кінуў у балота, прыгаворваючы:

(Заканчэнне на 8-й стар.).



# КРЫШТАЛЬНЫЯ КВЕТКІ

**Звычайная шкляная палачка, разагрэтая ў полымі газавай гарэлкі, ператвараецца ў руках мастака па шклу Барысаўскага камбіната прыкладнога мастацтва Аркадзя Новіка ў казачную кветку. Дакладнымі, выверанымі рухамі майстар разразае эластычны камяк распаленай масы, пінцэтам выцягвае празрыстыя пялёсткі, няўлоўным рухам уводзіць каляровыя прысадкі. І вось ужо народжаны ў агні цуд займае месца сярод такіх жа пяшчотных цюльпанаў. А побач на стэлажах — задзірыстыя пеўні, фантастычныя рыбы, што выплываюць з найтанчэйшых шкляных водарасцяў, сямейства смешных бегемотаў — работы, падрыхтаваныя да чарговай выстаўкі.**

**Сёння многім аматарам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва знаёма творчасць гэтага самабытнага мастака. Яго выдатныя сувеніры са шкла карыстаюцца нязменнай папулярнасцю.**

**НА ЗДЫМКАХ: вырабы майстра; мастак па шклу Аркадзь НОВІК.**



# У ЛАНЦУЖКУ СТАГОДДЗЯЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

«Бра! Гінь!», што значыць «брат, прападай». На тым самым месцы быццам і ўзнікла мястэчка Брагін.

Але паходжанне назвы Брагіна трэба звязваць не з падобнай на казку фантастычнай легендай, а з характэрнымі геаграфічнымі рэаліямі гэтых мясцін—багнамі (балотамі, дрыгвой). Слова Брагін, як і ўтваранае ад яго імя рэчкі Брагінкі, адпавядае шматлікім рачным назвам у Пасожжы — Драгіня, Драгінь, Драгонка, Дрыгіня і іншым. Усе гэтыя рачулкі ці нават ручаі выцякаюць з балот, а іх назвы ўзыходзяць да слоў драгва ці брагва ў значэнні «дрыгва, багна». Рака Брагінка мае паралельную назву — Мураўлянка. А такое імя звычайна носяць тыя рэчкі, якія працякаюць па вільготнай, дрыгвяністай прасторы.

На Брагіншчыне ўвогуле існуе шмат паданняў, прычым многія з іх маюць рэальныя гістарычныя вытокі. Даследчыкі духоўнай культуры беларусаў адзначаюць распаўсюджаную ў мінулым сярод палешукоў веру ў чараўніцтвы, пераўтварэнні ў іншую істоту, перадаюць апавяданні пра ваўкалака — чалавека-ваўка. Пачатак гэтых уяўленняў ляжыць у сярэдзіне І тысячагоддзя да новай эры. У той жа час жылі на поўдні сучаснай Гомельскай вобласці плямёны неўраў, якіх грэчаскі падарожнік і гісторык Герадот лічыў чараўнікамі, бо неўры, згодна з паданнем, кожны год на некалькі дзён ператвараліся ў ваўкоў, а потым зноў прымалі чалавечы выгляд.

Аб жыцці неўраў, якіх лічаць продкамі славян, мы ведаем дзякуючы раскопкам беларускіх археолагаў. У Брагінскім раёне, у басейне Брагінкі, знойдзена каля 20 гарадзішчаў, многія з якіх былі пабудаваны менавіта неўрамі. Старажытныя гарадзішчы Брагіншчыны здалёк нагадваюць узгоркі, зарослыя соснамі. На круглай ці авальнай пляцоўцы ўважлівае вока абавязкова заўважыць земляныя насыпы-валы, унутры якіх калісьці жылі людзі. Колькі гадоў мінула з таго часу!

Гарадзішчы будаваліся ля рачнога берага ці сярод балот на ўзвышшах. Адна з такіх пабудоў у свой час вырасла да памераў буйнога племяннога цэнтра, які ў Іпацьеўскім летапісе пад 1147 годам быў названы Брягінам. У гэты год, «калі ўжо замерзлі рэкі», ноўгарад-северскія князі прывялі на Русь палавецкія орды «ваяваці Брягін». У Кіеўскай Русі Брагін быў не самым маленькім мястэчкам. Іпацьеўскі летапіс паведамляе, [illegible] ў 1187 годзе кіеўскі князь [illegible]ык Расціславіч урачыста святкаваў вяселле свайго сына Расціслава, за якога ён пасватаў Верхуславу, дачку суздальскага князя Усевалада Вялікае Гняздо. Вяселле адбывалася ў Брагіне, падараваным як вясельны гасцінец маладой жон[illegible]якой у той час не было... 8 [illegible]ў. Цікава, што жаніх быў не намнога старэйшым: яму споўнілася 10 гадоў. Згодна з летапісам, такога вяселля дагэтуль не бывала на Русі, бо на ім прысутнічала аж 20 князёў.

Да канца XV стагоддзя гісторыя Брагіна невядомая. У гэты час, як можна меркаваць, ён быў уласнасцю літоўскіх князёў, а з сярэдзіны XVI стагоддзя уваходзіць у склад Рэчы Паспалітай.

У 1601 годзе пры двары князя Канстанціна Вішнявецкага, тагачаснага ўладара горада, з'явіўся чалавек, які абвясціў сябе вялікім рускім царом. Гэта быў Лжэдзмітрый, з якім звязаны вядомыя сумныя падзеі рускай гісторыі. Таямнічы незнаёмец назваў сябе царэвічам Дзмітрыем, сынам Івана Грознага, перадаў князю Вішнявецкаму таямніцу свайго нараджэння. Той у сваю чаргу ўзяў Лжэдзмітрыя пад сваё заступніцтва і прадставіў справу ў такім святле, што даў магчымасць польскай кароне пачаць вядомы «смутны перыяд» у рускай гісторыі.

У 1648 годзе жыхары Брагіна добраахвотна адчынілі вароты перад войскамі Багдана Хмяльніцкага, які ўзначальваў барацьбу ўкраінскага і беларускага народаў супраць польскага панавання. Дарагой цаной заплацілі брагінцы за гэты ўчынак — польскія войскі дашчэнту зруйнавалі горад.

У ІХ томе «Полного географического описания нашего Отечества», прысвечаным Беларусі і Верхняму Падняпроўю і выдадзеным у 1905 годзе, гаворыцца, што ў мястэчку Брагін жыве больш за 2,5 тысячы чалавек, ёсць школа і дзве царквы.

Гісторыя Брагіна, Брагіншчыны непарыўна звязана і з падзеямі мінулай вайны: у раёне больш за 60 помнікаў і абеліскаў, узведзеных на брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан, ахвяр фашызму, на месцах ушанавання памяці Герояў Савецкага Саюза, невядомых салдат Айчыны.

Па вуліцы Савецкай знаходзіцца брацкая магіла савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму, дзе пахаваны 224 воіны 9-га гвардзейскага і 89-га стралковага карпусоў 61-й арміі, якія загінулі пры вызваленні Брагіна і навакольных вёсак, 9 партызан і 89 мірных жыхароў, закатаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Павел Мамкін і Мікалай Махаў.

Войскі 61-й арміі фарсіравалі Днепр, прарвалі абарону праціўніка на заходнім беразе ракі і восенню 1943 года ўступілі на тэрыторыю Брагінскага раёна. На досвітку 23 лістапада 1943 года быў пакладзены канец больш чым двухгадовай фашысцкай акупацыі Брагіна. Аб тым жудасным часе таксама сведчаць помнікі. На вуліцы Пясочнай, у скверы, пахаваны 8 тысяч мірных жыхароў, закатаваных і расстраляных захопнікамі. У гады акупацыі ў Брагіне дзейнічала камуністычнае падполле, якое трымала цесную сувязь з партызанскім атрадам імя Р. Катоўскага, распаўсюджвала зводкі Саўінфармбюро, збірала зброю, ратавала моладзь ад вывазу на катаргу ў Германію.

...Калі мы ў ланцужку стагоддзяў разглядаем гісторыю асобных нашых гарадоў ці вёсак, паходжанне іх назваў, народныя паданні і легенды, заўсёды ўзнікае пачуццё ўдзячнасці тым пакаленням, якія жылі на гэтай зямлі да нас. Мы павінны вывучаць іх справы, учынкі, імкненні, каб больш і лепш ведаць сваю Радзіму.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ,**
**правадзейны член Геаграфічнага таварыства СССР.**

# спорт

Мінулы раз свой кароткі спартыўны агляд мы пачыналі з біятлона. Чарговыя ўдалыя выступленні прадстаўнікоў Беларусі даюць магчымасць працягнуць гэту тэму.

У Аўстрыі на чэмпіянаце свету ізноў вызначыўся мінчанін Сяргей Булыгін. Разам з біятланістамі са Свярдлоўска Ю. Кашкаровым, С. Чэпікавым і А. Паповым ён заваяваў залаты медаль у каманднай гонцы на 20 кіламетраў.

Юніёр з Магілёва Сяргей Гобараў у складзе зборнай СССР стаў пераможцам у эстафетнай гон[illegible] біятланістаў сацыяліс[illegible]ых краін на міжна[illegible]дных спаборніцтвах «Дружба» ў Чэхаславакіі.

Не можам не парадавацца за беларускіх хакеістаў. Упершыню двое прадстаўнікоў нашай рэспублікі Ю. Крывахіжа і А. Ка[illegible]ў уключаны ў зборную к[illegible]ны, якая праходзіць падрыхтоўку да чэмпіянату свету. Савецкія хакеісты правялі дзве таварыскія сустрэчы ў Швецыі і атрымалі перамогі — 5:4 і 4:3. У апошняй гульні адну шайбу закінуў А. Кавалёў.

У гэты ж час у Мінску завяршыўся традыцыйны турнір шаснаццацігадовых хакеістаў СССР, Швецыі, Чэхаславакіі і Фінляндыі. У такім парадку яны і занялі адпаведныя месцы. Тут за зборную СССР гуляў мінчанін Д. Старасценка.

Коратка аб іншых спаборніцтвах.

3,5:2,5 ачка. З такім лікам чэмпіёнка свету па міжнародных шашках мінчанка Зоя Садоўская перамагла ў матчы з галандкай Карэн ван Літ.

Высокімі вынікамі парадавалі ўдзельнікі першынства краіны па лёгкай атлетыцы, якое прайшло ў лёгкаатлетычным манежы Гомеля. Сярэбраны прызёр Алімпіяды ў Сеуле Р. Гатаулін з Ташкента тут устанавіў сусветны рэкорд у скачках з шастом — 602 сантыметры. Сярод пераможцаў — брэстаўчанка Т. Грабянчук. Яна першай закончыла дыстанцыю 800 метраў.



**Вячаслаў Яноўскі ішоў да вяршыні спартыйнага Алімпа доўгім і нялёгкім шляхам. Яго двойчы незаслужана адхілялі ад вялікага спорту, часам «засуджвалі»» на міжнародных і ўсесаюзных турнірах, тры разы Вячаслаў сам кідаў любімы бокс. Але, відаць, спрабуючы даказаць і суддзям, і тым, хто не верыў у яго, а перш за ўсё самому сабе, што здольны ён на многае, зноў надзяваў баксёрскія пальчаткі, зноў выходзіў на рынг. Вышэйшая спартыўная ўзнагарода — залаты алімпійскі медаль у Сеуле прыйшла да яго ў 31 год, прыйшла і слава. Але трыццаць гадоў — такі век, калі многія развітваюцца з вялікім спортам. Яноўскі ж працягвае рыхтавацца да новых баёў.**
**НА ЗДЫМКУ: Вячаслаў ЯНОЎСКІ (у цэнтры) з удзельнікамі вечара-сустрэчы ў Доме культуры эксперыментальнай базы «Тулава».**

**Фота А. ЦАРЛЮКЕВІЧА.**

# АДРАДЖАЮЦЬ МАЛАДЫЯ

Адраджэнне старажытнага Магілёва пачалі энтузіясты камсамольска - маладзёжнага будаўнічага атрада. Свой маладзёжны жыллёвы комплекс (МЖК) яны так і назвалі «Стары Магілёў» і ўзяліся аднаўляць у гістарычным цэнтры горада — па цяперашняй Ленінскай вуліцы — тры трохпавярховыя дамы старадаўняй архітэктуры. Кожнаму будынку — амаль па два стагоддзі. Спецыялісты Беларускага політэхнічнага інстытута правялі даследаванні пабудоў і далі «дабро» на рэканструкцыю. У двух верхніх паверхах члены МЖК будуюць сабе жыллё на шаснаццаць кватэр.

— А першыя паверхі мы аддаём пад грамадска-культурныя цэнтры, — расказвае камандзір атрада Віталь Шмакаў. — У адным доме размесціцца гарадскі клуб воінаў-інтэрнацыяналістаў, у другім — гарадскі фотаклуб «Магілёў», у трэцім — клуб нашага МЖК. У ім будуць музей, зала пасяджэнняў і дзіцячыя гульнявыя пакоі. У адным з дамоў думаем абнавіць мансарду, дзе будуць абсталяваны творчыя майстэрні для мастакоў. Добраўпарадкуем і саму вуліцу, вернем ёй непаўторны выгляд і стыль. Словам, захаваем для нашчадкаў гістарычны цэнтр Магілёва.

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 197